*«Мне б да кожнай душы дакрануцца словам, шчырасцю заваражыць, матчынай мовай!..»*



# Надзея Мікалаеўна ПАРЧУК

*жыхарка паселка Мухавец Брэсцкага раёна*

Надзея Парчук нарадзілася ў вёсцы Ладараж Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1973 г. скончыла Ладаражскую СШ, у 1975 — Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум. 25 гадоў адпрацавала ў банкаўскай сістэме. З 2001 года актыўна займаецца літаратурнай творчасцю. Паэт, крытык, публіцыст.

Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Ул. Калесніка Брэсцкага аблвыканкама (2010). Узнагароджана медалём СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру». Пераможца літконкурсу на фестывалі інвалідаў «Вместе мы сильней». Мае Граматы Брэсцкага абладдзялення СПБ.

Выдала зборнікі вершаў: «Жыццёвыя плыні», «Раскрыліўся бусел над хатай», «Зарунее жыта зноў», «Ладараж», «Берагі надзеі», «Венерын чаравічак» і інш. Укладальніца калектыўнага зборніка прозы і паэзіі «Дазволь прычасціцца...»

У Саюз пісьменнікаў Беларусі прынята ў 2009 годзе.

# Песенная паэзія Надзеі ПАРЧУК

## Калі б не ты...

Нас лёс злучыў з табой аднойчы
І ў вір кахання акунуў —
Я палюбіла чорны вочы,
А ты ў блакітных патануў.

***Прыпеў:***
*Я не спявала б аб любові,*
*Калі б не ведала яе,*
*Калі б не гэты чорны бровы,*
*Не завіхровінкі твае.*

Калі б прайшоў тады ты міма,
Не зачапіў знарок мяне —
Ні сэрцам я і ні вачыма
Не пакахала б па вясне.

***Прыпеў.***

Не пакахала б цябе летам
І той купальскаю парой,
Калі кастрамі ноч сагрэта,
А я — пяшчотаю тваёй...

***Прыпеў:***
*Я не спявала б аб любові,*
*Калі б не ведала яе,*
*Калі б не гэты чорны бровы,*
*Не завіхровінкі твае.*

## Зграбная дзеўка

Дзеўка касу, як кудзелю,
Распусціла... у нядзелю,
Ля люстэрка стала.
— Дзякуй, маці, дзякуй, Божа,
Нарадзілася прыгожай, —
Ціхенька сказала.

На абцасіках высокіх
Ля люстэрка стала бокам —
Цешыцца сабою:
— Вельмі зграбная я дзеўка,
Нібы ў песеньцы прыпеўка, —
Станам і душою.

Дысыць мне сядзець у хаце
З добрым бацькам, з роднай маці —
Сумаваць па волі.
Падмалюю вусны, вочкі,
Выйду з хаты ціха, моўчкі —
Пашукаю долі.

Ды з вяскоўцаў — добрых хлопцаў
Падбяру сабе малойца,
Што мне пасміхнецца.
Запяю з ім разам песню,
Хай ляціць у паднябессе —
Хлопец застанецца.



## Прыдарожная каліна

На лузе шырокім між траваў высокіх
Каліна цвіла па вясне
І вабіла вока прахожым здалёку,
І снілася, снілася мне.

Расказвала ўночы, што ўжо неаднойчы
Прыходзіць хлапец да яе —
Ламае суквецце нахабна, бы вецер,
І любай сваёй падае.

— Скажы мне, каліна, што то за хлапчына —
Галантны такі кавалер?
— Твой любы, дзяўчына,
што зваўся адзіным
Другую цалуе цяпер.

— Ах, сон мой дзявочы,
навошта штоночы
Расказваеш мне пра галлё?!
Не трэба прарочыць,
бо можаш сурочыць
Каханне і шчасце маё.

## Салаўіная ноч

Заляцеў у мой сад салавей,
Хоць жыву я зусім не наўзбоч.
Як сапраўдны пявун-чарадзей —
Хваляваў маё сэрца ўсю ноч.

Заліваўся на ўсе галасы:
Дагаджаў за святло... у акне.
Прызнаюся: падобнай красы
І ў салодкім не снілася сне.

Заварожана слухала я —
Несціхаючы спеў салаўя,
А душа ўсё шаптала мая:
Мілы птах, дзіўна песня твая!

Мне не спалася аж давідна:
Хвалявалася сэрца ў грудзях.
Ля акна я сядзела адна,
А на вішаньцы цёхкаў мне птах...

## Над ракою...

Па-над ціхай ракою схіліліся травы
І глядзяцца ў яе, бы ў люстэрка сваё.
Любы край дарагі, мой куточак ласкавы,
Ты пяшчотай сваёй поўніш сэрца маё.

Ты з дзяцінства запаў мне
ў душу назаўсёды —
Ціхім плёсам вады, шумам мілых бяроз.
Мне не трэба чужой ні красы, ні лагоды,
Мне даволі тваіх ясназорых нябёс.

Колькі буду я жыць —
столькі буду маліцца,
Каб вярталі сюды журавы па вясне:
Можа, з імі і я прылячу пакланіцца —
Праз вякі сярод іх ты пазнаеш мяне.

## То бор, то гай, то палявыя сцежкі...

То бор, то гай, то палявыя сцежкі
Бягуць насустрач хуткаму аўто,
І рассыпаюць светлыя усмешкі
Валошкі ў гушчы маладых жытоў.

А мне ніяк не справіцца з душою —
Я патанаю ў чэрвеньскай красе.
А вунь і мост над Прыпяццю-ракою —
Ён зараз нас праз рэчку пранясе.

А там падхопіць лёткая дарога,
І, нібы птушка з выраю вясной,
Я прылячу да роднага парога
І прывітаю кут радзінны свой.



## Зямля мая, краса мая!

Палескі краю, дарагі,
Ты быў маёй люлянкаю,
Твае палі, твае лугі —
Салодкай калыханкаю.

*Прыпеў:*
*Зямля мая, краса мая!*
*Ты ў свеце найчароўная.*
*Зямля мая, душа мая, —*
*Людской спагады поўная!*

Шумяць, шапочуць каласы,
Ад ветрыку гайдаюцца,
Да жыватворнае красы —
Да сонейка ўсміхаюцца.

*Прыпеў.*

Хай над табой плывуць вякі
І песні ўсюды чуюцца!
Няхай жывуць палешукі —
Тваёй красой любуюцца!

*Прыпеў:*
*Зямля мая, краса мая!*
*Ты ў свеце найчароўная.*
*Зямля мая, душа мая, —*
*Людской спагады поўная!*

## У час растання

Як прыемна душы
быць у родных мясцінах,
Дзе знаёмае ўсё — да маленькіх драбніц,
Дзе зялёны лясок запрашае гасцінна
І заве сенажаць дываном медуніц.

Ах, як хутка прайшлі
нашы дні, праляцелі —
Як імгненне адно, нібы сон уначы!..
Зачыняю павольна бацькоўскія дзверы,
А сардэйка балюча чагосьці шчыміць.

Пакідаю цябе, родны кут, я ізноўку.
Ад'язджаю. Бывай... Час растання настаў.
Будзеш сніцца ты мне —
уначы і на золку...
Я хацела б, каб ты й пра мяне ўспамінаў.

Не сумуй без мяне, дарагая радзіма, —
Я вярнуся сюды й не адзін яшчэ раз.
Пра тваю дабрыню
мне забыць немагчыма:
Тут пасецца заўжды мой крылаты Пегас.

## Зімовае натхненне

Ах, ты, лёс гаротны мой!
Чым ты задаволены?
Зазірну ў акно зімой —
Бачу сад аголены.

А як выйду за парог,
Каб падыхаць свежасцю —
Неба ўсядзецца на стог —
Працінае шэрасцю.

Кіну вокам за сяло —
І настрой падымецца.
Хоць падбітае крыло,
Ды — душа акрыліцца.

Бо вакол — снягі, снягі
Белай коўдрай сцелюцца —
Тут ужо не да тугі,
Тут у радасць верыцца.

Па-над берагам ракі
Вербалоз калышацца...
Дзякуй Богу ў час такі
Вельмі шчыра пішацца.



## Не малі, не прасі...

Не пытайся вятроў,
чаго сумна гудуць? —
На пытанне яны не адкажуць.
Не пытайся гадоў, чаго хутка бягуць,
Бо няма на  размовы ў іх часу.

Як вятрам не гудзець,
як жа ім не шумець,
Калі сонейка зранку не ўстала.
Як гадам не ляцець,
як жа нам маладзець,
Як на сэрдайку радасці мала.

Не пытайся ты ў хмар,
чаго плачуць заўжды? —
Ад нядолі сваёй пачарнелі.
Бо яшчэ аніхто
не пражыў без бяды,
Як бы гэтага мы не хацелі.

Не пытайся ў начы,
чаго зорак няма,
І чаму ясны месяц не ззяе?
Не жадай, не малі,
не прасі, бо здарма —
Лёс спагады ніякай не мае.

## Мой ранак ружовы...

Мой ранак ружовы
Са мной павітаўся —
Ў абшары вясковым
Святлом разаслаўся.

Зноў еду я ў госці
Сустрэцца з радзімай,
А сэрца чагосьці
Ў тузе жураўлінай.
Напэўна, дом родны
Мяне зачакаўся —
Гаворкай пяшчотнай
Даўно не натхняўся.

Дарога наперад
Бяжыць і гукае,
А ў сэрцайку верад
Шчыміць, не сціхае:
Як там, пад бярозкай,
Спяць мама і тата?
Ці знаюць, што ў вёску
Я еду на свята?

Вунь крыж прыдарожны
Са мной павітаўся.
Ах, як ён прыгожа
Да свята прыбраўся!
Мой ранак ружовы
Над лесам палае —
Ў абшары вясковым
Святло расцілае.



### ***

Абуджаецца сонцам зямля —
І святлее наўсцяж небакрай.
Прывітанне, Радзіма мая!
І паклон табе, родны мой край!

Покуль вы ў мяне, любыя, ёсць —
Мне ў ваш гонар заўсёды спяваць,
Адчуваць у душы маладосць
І высока у мроях лунаць.

І куды б ні занёс мяне лёс —
Вы не знікніце з сэрца майго.
Я вярнуся да белых бяроз,
Прылячу да святых берагоў.

## Я памалюся раніцай святой

Ўзышла зара над роднай Беларуссю —
Ружовай кветкай сонца расцвіло.
Я зноўку ім удзячна памалюся —
За мірны дзень, за Божае святло.

Са шчырых слоў я новую малітву
Уголас зноўку выдыхну у свет:
Благаславі, Гасподзь, красы палітру,
Благаславі пакінуць добры след.

Я памалюся высям і блакіту
За уваскрэслы ранак над зямлёй,
І шапаткому залатому жыту
Я памалюся раніцай святой.

Затым удзячным словам зноў успомню
Мінулы дзень і шчодрасці яго,
Каб і сягоння сонечнаму промню
Не шкадаваць нам сэрцайка свайго.

## Благаслаўленне

Жыві, красуйся, родная старонка,
Хай над табой праносяцца вякі,
Няхай тваю вясковую гамонку
Калышуць хвалі роднае ракі!

Няхай нясуць яны яе удалеч —
Паміж сваіх ціхмяных берагоў,
Хай на плячах сваіх рака гайдае
Твою гаворку, веру і любоў!

Каб разрастаўся, зелянеў дубочак,
Стаяў як сімвал мужнасці людской,
Жыві й красуйся, родны мой куточак,
Благаслаўляйся сілаю святой!

## Прыпеўкі

Ой, зайграйце, музыкі,
Хай пацерпяць чаравікі,
Хай паскачуць крышку ногі,
Не кранаючы падлогі!

Мне сядзець на лаве цвёрда,
Дый душа маўчаць не згодна,
Седня — справа не мая,
А санліўца-гультая.

Ой, выйдзі, дзяўчына,
Да мяне на серадзіну —
Весялей з табою будзе —
Пагамоняць пра нас людзі.

Пагамоняць, пасмяюцца,
Чаравікі як парвуцца,
Пазбіваюцца абцасы,
Як дамо з табою джазу.

Ой, іграйце, музыкі,
Я ж у новых чаравіках
Паскачу, патупаю
З мілай дзеўкай любаю.

Танцаваў бы аж да ранку,
Ды не дасць маці сняданку,
Захавае й чаравікі,
Замаўкайце ўжо, музыкі!

# Беларуская кніга сцежкамі вякоў

**2017 год — год асаблівы, юбілейны. Менавіта ў гэтым годзе спаўняецца роўна 500 гадоў з дня выхаду ў свет першай друкаванай кнігі на нашай роднай беларускай мове.**



Не абмінула сваёй увагай гэтую памятную дату і *Страдзечская сельская бібліятэка*, дзе з вучнямі 8 класа была праведзена размова-агляд пад назвай «Беларуская кніга сцежкамі вякоў». Дзякуючы гэтаму мерапрыемству вучні пазнаёміліся з біяграфічнымі звесткамі пра Францыска Скарыну, з гісторыяй узнікнення і станаўлення беларускага кнігадрукавання.

Для замацавання атрыманых ведаў дзецям было прапанавана прыняць удзел у гістарычна-пазнавальнай віктарыне «Францыск Скарына і яго час». Дзеля таго, каб вучні маглі даваць больш поўныя, разгорнутыя і грунтоўныя адказы на прапанаваныя пытанні, для іх была надрукавана падказка «Храналагічная канва жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны».

Дзякуючы мерапрыемству, падрыхтаванаму і праведзенаму ў Страдзечскай сельскай бібліятэцы, васьмікласнікі атрымалі ўнікальную магчымасць яшчэ раз дакрануцца да сваёй гісторыі, адчуць гонар за свайго таленавітага земляка, убачыць і асэнсаваць усю значнасць яго адкрыцця для станаўлення беларускай культуры.

*Таццяна ЖУРАЎКОВА*



# «Литературный ринг» в Брестской районной библиотеке







На протяжении всей недели весенних каникул в Брестской районной библиотеке не смолкали детские голоса. Увлекательно и познавательно прошла игра-викторина «Литературный ринг», которую проводила библиотекарь читального зала Алеся Эдуардовна Хомик с учениками 2–3 классов Чернинской средней школы.

Изначально ребята разделились на две команды. В ходе игры им были предложены вопросы, связанные с народным творчеством, произведениями, написанными известными детскими авторами, и литературными сказками.

Ребята из двух команд участвовали очень активно и очень старались дать правильный ответ, ведь всем хотелось набрать наибольшее количество жетонов и стать победителями. Тем не менее, не все вопросы давались им легко, но общими усилиями ребята справились с заданиями.

После подведения итогов игры-викторины и объявления победителей, ребята признались, что им очень понравилось такое интеллектуальное соревнование, а для того, чтобы узнать ответы на вопросы, которые вызвали затруднения, школьники пообещали перечитать нужные книжки.




*Светлана*
ЧУСОВЛЯНКИНА

# Неделя детской и юношеской книги в Домачевской горпоселковой библиотеке

С 29 марта по 2 апреля *в Домачевской горпоселковой библиотеке* прошла Неделя детской и юношеской книги.

Первый день был объявлен днем веселых затей, загадок и шуток, ведь все дети очень любят играть и узнавать что-то новое.

30 марта в стенах Домачевской библиотеки было организовано бюро литературных новинок «Восьмое чудо света — книга». На мероприятие были приглашены ребята из школьного оздоровительного лагеря «Солнышко». В этот день, благодаря книжной выставке, организованной библиотекарем Топаловой Натальей Георгиевной, дети смогли познакомиться с книгами многих белорусских авторов. Ведущая встречи подробно рассказала детям о каждой книге, представленной на выставке, ведь главной целью этого мероприятия было вызвать интерес к чтению, к литературе.

31 марта ребята, пришедшие в библиотеку, отправились в виртуальное путешествие «На языках народов мира», которое было посвящено 500-летию со дня издания Франциском Скориной первой печатной книги «Псалтыр». В ходе путешествия дети узнали о том, что среди наиболее ярких и значительных представителей эпохи Возрождения выделяется личность Франциска Скорины. Он вошел в нашу историю как первопечатник и ученый, просветитель и гуманист, поэт и медик, ботаник и астроном. Через книги Ф. Скорина стремился приобщить своих соотечественников к достоянию общечеловеческой культуры. Он является выдающимся деятелем белорусской культуры XVI века, основателем белорусского и восточнославянского книгопечатания, а его книги — уникальное явление мировой культуры. После просмотра видео-презентации, ребята еще долго не спешили расходиться, они задавали массу вопросов о первом печатном станке, о написании буквиц, о первой печатной книге, о жизни самого Ф. Скорины.



В день закрытия Недели детской и юношеской книги Домачевская горпоселковая библиотека под литературным зонтиком «Путешествие за смехом» вновь собрала детей из школьного оздоровительного лагеря «Солнышко». Ребята с удовольствием слушали сказки, отгадывали литературные загадки, участвовали в книжных викторинах и конкурсах.

Весенние каникулы, проведенные школьниками вместе с Домачевской библиотекой, прошли весело и задорно, были полны приятными сюрпризами и неожиданными литературными открытиями.

*Наталья* ТОПАЛОВА

Алесь КАРЛЮКЕВИЧ

# Институт Мальдиса

**Адам Иосифович Мальдис — из духовных богатырей, чей талант и уникальное трудолюбие, родниковое богатство новыми идеями, чья харизматичная энергетика способствовали белорусскому просвещению сделать шаг вперед.**



Родился в деревне Рассолы — нынешний Островецкий район. В школу пошел только в 1945-м, имея за плечами уже 13 лет. Правда, сразу в 5-й класс. До сей поры с помощью отца, простого крестьянина Осипа Людвиковича, занимался самообразованием. Закончив в 1951 году Островецкую среднюю школу, Адам поступил на отделение журналистики Белорусского государственного университета. Поспособствовало этому его активное юнкорство — присылал стихи, заметки в пионерскую, районную, областную газеты. Занимался общественной работой. Был он подростком социально активным.

Уже в студенческие времена начал выступать в печати с рецензиями. Сам ученый начало своей профессиональной литературной деятельности считает рецензию на роман Пилипа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» — «Недостатки хорошего произведения», опубликованную в газете «Літаратура і мастацтва» 1 сентября 1954 года. Уже само название говорит о попытке отклонить комплиментарщину, сказать правдивое слово. С этих, середины 1950-х годов, публикаций и начинается Адам Мальдис как исследователь.

Три года в районной газете в Радошковичах также многое привнесли в жизнь, в самосознание будущего ученого. Работать выпало на Молодеченщине, богатой прогрессивными западнобелорусскими традициями, культурой и просвещением.

Затем — аспирантура Института литературы имени Янки Купалы. С 1963 года, когда Адам Мальдис защитил кандидатскую диссертацию, — нучное старательство в академическом институте: младший, старший научный сотрудник, заведующий сектором взаимосвязей литературы, а с 1981 — заведующий отделом белорусской дооктябрьской литературы. Докторскую — «Закономерности развития белорусской литературы переходного периода (Вторая половина XVII—XVIII в.)» — защитил в 1986 году. Но уже с самого начала пути стало видно, что приоритеты, избранные Мальдисом, направлены в сторону иных ценностей. Не конъюнктурные были это приоритеты... И не было необходимости декларировать свою цель, она оказалась на виду: Мальдис «собирает Беларусь». Поэтому со временем и пришел

к созданию Национального научно-исследовательского центра имени Франциска Скорины, поэтому и вел по непростому общественному, жизненному течению этот «корабль надежд» аж семь лет!

Уже первая книга Адама Мальдиса — «Творческое побратимство: Белорусско-польские литературные взаимосвязи в ХІХ веке» (Минск, 1966 год) — вызвала большой интерес. Появились рецензии в журналах «Полымя», «Літаратура і мастацтва», «Чырвонай змене», а так же в «Советском славяноведении», белостокской «Ніве»... И авторы не случайные: Владимир Казберук, Микола Прошкович, Степан Миско!.. Уже тогда становилось понятно, что только литературных интересов Адаму Мальдису мало. Ученый внимательно следит за всем, что связано с возвращением наследия уроженцев Беларуси, сам участвует в открытии забытых судеб наших соотечественников. Ученый-литературовед становится культурологом, историком отечественной культуры.

...1967 год. В журнале «Полымя» выходит рецензия Адама Мальдиса на книгу переводов поэзии Владислава Сырокомли на белорусский язык. На страницах «Маладосці» ученый рассказывает об Игнатии Домейко. «Літаратура і мастацтва» помещает статью «Пионер белорусской фольклористики» — к 120-летию со дня смерти легендарного Яна Чечота. В этой же газете — рецензия на книгу исследователя Казахстана, Центральной Азии Адольфа Янушкевича «Дневники и письма из путешествия по казахским степям», изданную в 1966 году в Алма-Ате. Адам Мальдис стремился видеть все, что связывало Беларусь с миром.

Внимание к судьбам наших соотечественников через некоторое время вылилось в многие и многие публикации. А еще и пришла новая тема — свидетельства, мемуарные источники о нашем Отечестве из уст путешественников разных эпох. Там родилась книга «Дороги вели через Беларусь», которую Адам Иосифович написал в соавторстве с Валентином Петровичем Грицкевичем. Рядом с ней стоит и издание «Беларусь в зеркале мемуарной литературы». Кстати, здесь надо бы сделать небольшое отступление и заметить следующее. С 1980-го по 1990-й год включительно ученый издал восемь книг. И на этот же период приходится защита докторской диссертации. Тогда же инициируется работа над многотомным справочником «Белорусские писатели» (шесть томов его увидели свет в 1992–1996 гг.) К сожалению, эти тома не получили достойной государственной награды. По своему значению работа эта как никакая другая достойна Государственной премии. Между тем, внимание Мальдиса к белорусской библиографии — тема для особого разговора, которую давно пора вести в университетских аудиториях. А что касается краеведческой библиографии, то сделанное, найденное, подсказанное ученым стоит еще не одной докторской мантии... И из года в год — бесконечность публикаций в периодической печати. Мальдисовские 1980-е годы мне видятся самыми напряженными. А вместе с тем и поворотными. Материал собирался, вырастал до тех размеров, когда молчать нельзя. Образовался и огромный опыт в его преподавании. И книги, и статьи «выстрелили». Следующее десятилетие должно было стать еще более энергичным и напряженным, и соответственно более продуктивным. Но книг стало меньше... Мальдис стал организатором в науке, в культурологических проектах, стал руководителем, инициатором работы и

плодотворной деятельности коллектива и коллективов, многих других старателей. Рупліўцаў. И у меня, признаться, к такому проявлению его творческой биографии двойственное отношение. С одной стороны: замечательно, что так сложилось. Потому что и в Скориновском центре, и в комиссии Белорусского фонда культуры «Возвращение», и в Международной ассоциации белорусистов Адам Иосифович — личность незаменимая.

...Несколько лет назад я прочитал у Дмитрия Лихачева: «Есть большая разница между экологией природы и экологией культуры, и довольно принципиальная.

До определенной межи потери в природе возобновляются... Иначе складывается дело с памятниками культуры. Их потеря невозвратима, потому что памятники культуры всегда индивидуальны, всегда связаны с определенной эпохой, с конкретными мастерами. Каждый памятник разрушается навечно...

Чтобы сохранить памятники культуры, необходимые для «моральной оседлости» людей, мало только платонической любви к своей родине, любовь должна быть действенной.

А для этого нужны знания, и не только краеведческие, а и более глубокие, которые можно объединить в особенную научную дисциплину — экологию культуры».

Вот и мне литературовед, историк культуры Адам Иосифович Мальдис видится настоящим «экологом культуры». Его работа по сохранению многих памятников отечественной культуры носит просто уникальную многогранность. Выступления на заседаниях комиссии «Возвращение» Белорусского фонда культуры, многочисленные инициативы, обращенные к министерствам, к правительству страны, а еще и формирование общественного отношения в этом направлении, выступления в печати, подготовка и издание сборников «Возвращение» — все это фундамент к сегодняшним и завтрашним реальным здабыткам.

Ученый не раз озвучивал свою позицию именно таким образом: надо знать, где и что белорусское находится, и если невозможно вернуть, то надо хотя бы ввести в обиход белоруской национальной культуры, истории информационно, через описание, копирование, каталоги и т. д.

В этом прежде всего и проявляется глубина научного таланта Адама Мальдиса — его представление о безмерных просторах белорусской культуры, его, основанное на огромном багаже знаний, убеждение в исключительности, ценности национального, его бесценной роли в создании государства, формировании духовных приоритетов. Фактически Мальдис работает за целый институт. И это не просто образ. Сегодня уже не пересчитать тех ученых, журналистов, литераторов, которые не пользовались и не пользуются его щедрыми консультациями и советами.

Не все заботы ученого и писателя я назвал, когда писал этот очерк. Адам Иосифович во все годы своих забот (рупливасти) был и остается Краеведом с большой буквы. Родом из Островетчины, он всегда помнит о ней и его всегда притягивает к себе эта, казалось бы, не большая земля.

Повезло и всей Беларуси — у нее в лице Адама Мальдиса тревожный и настойчивый защитник родной культуры. И слава Богу, что плоды его приобретений и сегодня востребованы.

*Перевод с белорусского*
*Олега ПУШКИНА*

# Лёс ксяндза у новай кнізе свецкага чалавека

**У Брэсце прадставілі кнігу-біяграму праваслаўнага святара, выдадзеную беларусамі Польшчы. Матывы яго жыцця чытаюцца і ў шматгадовым ужо чыне ксяндза з Чарнаўчыц.**

29 сакавіка ў абласной бібліятэцы дырэктар прыватнага Музея малой Радзімы ў Студзіводах (Польшча) **Дарафей Фіёнік** прэзентаваў кнігу «Айцец Канстанцін Байко. Багаслоў, настаўнік, лекар». Як заўважыў вядоўца прэзентацыі прафесар **Аляксандр Вабішчэвіч,** кніга выйшла гістарычнай, бо ў ёй расчытваецца не толькі асабісты лёс, але і найноўшая гісторыя Польшчы і Беларусі.

Народжаны ў 1909 годзе, айцец **Канстанцін Байко** адпраўляў духоўную службу ў многіх храмах — геаграфія іх палягае ад Уроцлава да Нясвіжа. Быў рукапаложаны на святара ў 1930-я, асабліва неспрыяльныя для рэлігіі. У Польшчы, як вядома, прэваліруе рымакаталіцкая канфесія, касцёл. *«Забіралі праваслаўныя храмы, пад маркай таго, што былі раней уніяцкія, а значыць, рымскія,* — распавядаў, каментуючы той час, спадар **Фіёнік**. — *Пры Саветах уціскалі рэлігію ўсяляк. Але былі і моманты дзіўнай нейкай адлігі. Прыкладам, у 1956, пасля звароту з варкуцінскіх шахтаў на тэрыторыю Польшчы, айцец Канстанцін зноў, пакуль быў дазвол, выкладаў у школах Закон Божы. Вярнуўся, тым самым, да звыклай сваёй настаўніцкай працы, якую вёў да вайны. Мая маці яго вучаніца, а было тых вучняў у яго на год каля семісот».*

Агучаная была нагрузка айца Канстанціна: 42 урокі ў тыдзень, 7 у дзень. *«Выкладаў ён свой прадмет па-беларуску, былі тады падручнікі вядомага віленскага багаслова Паўловіча. Іншым разам і а 19-й увечары ставілі занияткі, — калі зборная група была, з розных школ»,* — спаслаўся на ўспаміны маці Дарафей Фіёнік.



Дарафей Фіёнік і яго кніга-біяграма

*«Трапіў айцец Канстанцін у няміласць да савецкай улады яшчэ ў міжваенны час,* – паведаміў прысутным студэнтам-гісторыкам і гасцям бібліятэкі **Аляксандр Вабішчэвіч**. — *Пасля 1939 года на рэлігійныя прыходы ў аб'яднанай Беларусі навесілі велізарныя падаткі. Нясвіжская царква, дзе адпраўляў службу айцец Канстанцін, мусіла сплаціць каля 10 тысяч рублёў па-*

*даткаў. А ўвесь гадавы даход парафіі склаў 1800. Дык вернікі сабралі каля паловы, а святар напісаў уладам скаргу, маўляў, непад'ёмныя падаткі. Тыя адрэагавалі. Айца Канстанціна арыштавалі. Падвешвалі за нагрудны крыж, білі, здзекваліся».*

Бачым: калі меркаваць па біблейнаму «Па пладах іх...», то палітыка Саветаў была ўцямная, як гырканне і ўкус байцовага сабакі. Вядоўца прывёў такую статыстыку: перад вайной на тэрыторыі БССР легальна дзейнічаў толькі адзін праваслаўны прыход — у Оршы. А ў Польшчы праваслаўных прыходаў налічвалася каля дзвюх тысяч.

Далей на прэзентацыі абмяркоўвалі гістарычны фон. У выніку вайны краіна-пераможца Беларусь панесла тэрытарыяльныя страты. У тым ліку і з боку Польшчы адкрэслілі ад яе ладны кавалак. Жыхароў перасялілі: палякаў у пабольшалую Польшчу, беларусаў у паменшалую Беларусь. Ды з адкрэсленых да Польшчы этнічна беларускіх земляў мала хто паехаў у той савецкі рай. Прычына вядомая: дурная і падступная слава савецкіх парадкаў. У Польшчы засталіся аўтакефальныя праваслаўныя прыходы — падпарадкоўваліся толькі Візантыі. Савецкія прымальнікі рашэнняў захацелі перападпарадкаваць іх Маскоўскаму патрыярхату. Але наткнуліся на супраціў. Адной з ключавых яго фігур быў айцец Канстанцін. Яго выкралі спецслужбы, перавезлі ў БССР, кінулі ў Гродзенскую турму. Асудзілі на 10 гадоў катаргі, саслалі ў Варкуту.

*«У маёй роднай вёсцы, дзе цяпер засталіся толькі адна старэнькая жанчына і адзін сабака, пры ўсім невялікім яе памеры была царква,* — падзяліўся прафесар фізікі Тэхнічнага ўніверсітэта **Анатоль Гладышчук**. — *У Харкаве, дзе быў студэнтам, не трэба было мне вучыцца, што ў якой руцэ трымаць пры людзях за сталом, — усё пераняў у нашага вясковага святара. І ў вайну нашу вёску не спалілі. Бацюшка па-нямецку тлумачыў афіцэру, што людзі аруць поле, кормяць жывёлу. Дзеці ў школку ходзяць. І разам з тым ляжаў у бабці ў хаце паранены партызан. Паказваў ёй пятліцу — на ёй генерал-маёрскія знакі. Камандзір злучэння. Ніхто не данёс».*

Падкрэсліваў тэзіс інтэлігентнасці святароў і доктар гістарычных навук **Аляксандр Вабішчэвіч**: *«Канстанцін Байко ведаў польскую, украінскую, англійскую, французскую, румынскую, старагрэчаскую... якую яшчэ?»* Налічылі дзесяць замежных моў. Працу Дарафея Фіёніка вядоўца адзначыў асобна: *«Кніга навукова-папулярная, чытаецца як мастацкая літаратура, і разам з тым педантычна акуратная ў падачы крыніц інфармацыі. Нават на подпісах фота гэта ёсць».* І наўпростава парэкамендаваў яе будучым спецыялістам гісторыі.

## Кніга і інш з Чарнаўчыц

Некаторыя моманты імпрэзы асабліва схілялі да рэфлексіі. Згадалася адна з размоў з чарнаўчыцкім ксяндзом **Паўлам**. «Ойча Павал» завіце мяне, — казаў ён, паказваючы старую-старую кніжку. Шрыфт — лацініца. Але словы беларускія. «BOZAE SLOVA. Lekcyi, Evangelii i Pramovy na Niadzeli i Sviaty». Уверсе на імпрэсуме імя аўтара. KS.AD. STANKIEVIC — ксёндз **Адам Станкевіч**. Таксама з Вільні. З беларускай яшчэ, толькі пад Польшчай — 1938 год. Музейны рарытэт. *«Іншым разам у імшы ўжываю»,* — каментаваў святар з Чарнаўчыцаў. Потым, са стрыманым гонарам, падвёў да яшчэ аднаго рарытэта. Апранаха. Строй выглядае на шыкоўны, для святаў, гісторыяй патыхае, сярэднія вякі няйначай. *«Арнат, службу служЫць. Дасталося мне, людзі перахоўвалі».* Прыглядаюся — тканыя з тоўстых каляровых нітак арнаменты, выглядае на нешта




Кніга-рарытэт ксяндза Паўла

знаёмае. *«Са слуцкіх паясоў сшыта, ямУ невядома колькі гадоў. Таксама часам на святы апранаю»*, — зазначыў ойча Павал.

Дзіўна было б, каб у такім старым храме — Троіцкі касцёл з XVI стагоддзя! — не было сваіх таямніцаў, прывідаў і нават шкілетаў у шафе. Добра не тое, што яны ёсць і нават раз-пораз матэрыялізуюцца — добра тое, што мой суразмоўца гэта захоўвае. Поруч са сваёй вялікай і руплівай, наколькі мне вядома, дабрачыннай дзейнасцю, скіраванай на дапамогу асабліва бедным, нямоглым, сацыяльна неўладкаваным.

І яшчэ згадалася фатаграфія, на якой два ксяндзы сякуць дровы. Адзін з іх акурат ойча Павал. *«У поце аблічча!»*. Наколькі вялікі кантраст з тлустымі саміведаецекім на нямецкіх як-ніяк «мерседэсах». «*...пілі прыхавана віно, а людзям ваду выслаўлялі*» — нічога не памянялася з часоў Гайнэ!

Ну ды гэта быў, збольшага, лірык — нямецкі Янка Купала. Прыйшоў час згадаць і нямецкага Якуба Коласа — эпіка і філосафа. Яшчэ ў савецкія скразняковаатэістычныя часы лавіў сябе не аднойчы на думцы: каб духоўна не здула, трэба за штось трымацца, за нейкую веру. Услед за Гётэ, творчасць якога ў сілу спецыфікі будучай прафесіі даводзілася ўзмоцнена штудзіраваць, прымяркоўваўся да пантэізму, веры ў першынства сіл прыроды. А што! Вельмі беларускі светапогляд. Беларусы ж дзеці прыроды, яны яе тут не насмерць яшчэ забілі, як шмат дзе ў цывілізаваным, нават, свеце.

У касцёл або царкву, у іншы які храм заходжу час ад часу. Добрае месца для роздуму, калі-нікалі. Тут дыхае гісторыя. З верай стаялі тут нашы продкі. Але ідэю выкладаць Закон Божы ў школе — лічу экстрэмісцкай. Вера гэта занадта інтымнае пачуццё, каб навязваць яе, пагатоў несвядомым яшчэ, не абазнаным у жыцці людзям. Ды і каго-кольвечы абавязваць да веры — хоць наўпрост, хоць ускосна — гэта сярэднявечча нейкае. Лічу, трэба людзям пакінуць свабоду выбару. З другога боку, выбар суцэльнага нявер'я, раскілзанай свабоды рабіць што вецер у галаву прынясе, — гэта, мяркую, не менш небяспечна за рэлігійны фундаменталізм. А пасярэдзіне гэтых двух крайнасцяў знаходзяцца, лучаць, а не разлучаюць людзей агульначалавечыя каштоўнасці, такія як дабрата, людскасць, цярпімасць, інтэлігентнасць.

Чаму аб'яднаў у гэтым артыкуле людзей і з'явы, розныя ў прасторы, часе, геаграфіі, канфесійным вымярэнні?

Вельмі люблю Беларусь. Калі вы не ведаеце — гэта рай на зямлі. І тут спрадвеку на кожнай цэнтральнай плошчы гарадоў, а і малых мястэчак — царква і касцёл. А на выездзе крыжы. Тыя, да якіх падвозяць, калі вязуць у апошні шлях. Перад якімі спыняюцца на хвіліну. Часта іх два, у адным месцы, — праваслаўны з дзвюмя перакладзінамі, і каталіцкі, з адной. І яны ў адной агароджы. Гэты відзеж як архітэктурную мадэль для артыкула літаратурна-мастакоўская нейкая інтуіцыя падказала. Па-мойму, дастаткова роднасна выйшла, са мной улучна.

*Яўген БЯЛАСІН, фота аўтара*
*http://www.bk-brest.by*

# Выстава да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі

**Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання прымеркавана выстава «Раскроем бережно страницы» дзейнічала ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.**

У гэтай экспазіцыі сабраны арыгінальныя матэрыялы з калекцый дакументаў, жывапісу, графікі, нумізматыкі, фалерыстыкі. Тут можна ўбачыць старадрукаваныя і рэдкія кніжныя выданні розных эпох і дзяржаў. Сярод іх — «Портреты, гербы и печати большой Государственной книги» (1672 г.), Біблія (г. Масква, 1691 г.), Евангелле (г. Масква, 1791 г.), Астрамірава Евангелле (1889 г., фаталітаграфічная копія) і іншыя.




Таксама цікавасць выклікаюць карціны і экслібрысы вядомых мастакоў выяўленчага мастацтва Брэсцкай вобласці: трыпціх «Памяці Францішкі Скарыны», створаны ў 1990 годзе мастачкай Тамарай Паўлючук, і дзевяць экслібрысаў Льва Алімава і Генадзя Вяля. Экспазіцыю дапаўняюць памятныя медалі, якія выдадзены да юбілейных дат культурнага жыцця Беларусі (напрыклад, «450 год ад дня выдання Брэсцкай Бібліі» Мікалая Кузьміча), значкі, маркі, канверты, паштоўкі з кніжнай сімволікай... Усяго больш за 110 экспанатаў!




— Выстава ў першую чаргу прысвячаецца старадаўнім кнігам і тым прадметам, што звязаны з імем Францыска Скарыны. Захаваліся толькі 520 выданняў усходнеславянскага першадрукара, 10 з іх знаходзяцца ў дзяржаўных зборах. У нашым музеі такіх выданняў няма,



вось мы і вырашылі зрабіць выставу з самых рэдкіх, незвычайных і асаблівых кніг, — паведаміла журналісту газеты «Заря» загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Ніна Кірылава. — Усяго ж мы захоўваем каля дзвюх тысяч кніг, у тым ліку 54 — старадрукаваныя выданні, гэта значыць, яны ўбачылі свет да 1825 года.

Упрыгожвае выставу ўзноўлены інтэр'ер букіністычнай крамы канца XIX — пачатку XX стагоддзяў са старой мэбляй і друкаванымі выданнямі. Дарэчы, у экспазіцыйнай зале можна свабодна абмяняцца кнігамі па тэме.

Прыцягвае ўвагу і вітрына, прысвечаная былому навуковаму супрацоўніку Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, былому загадчыку філіяла «Археалагічны музей «Бярэсце» Міхаілу Алексеюку, які пайшоў з жыцця ў 1983 годзе.

— Міхаіл Іванавіч быў вядомым краязнаўцам, яму належаць 150 навуковых артыкулаў аб гісторыі населеных пунктаў Брэстчыны. Ён перадаў у фонды нашага музея 900 прадметаў, якія паступілі ў калекцыі археалогіі, нумізматыкі, дакументаў, кнігі, — паведаміла Ніна Кірылава. — Сярод усяго іншага — пісьмо каралевы Боны Сфорца 1535 года, бо Міхаіл Алексяюк быў адным з самых вядомых у СССР калекцыянераў-баністаў. Таксама — Пасланне Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Рэчы Паспалітай. І мы захоўваем гэтыя арыгіналы! Думаю, жыхарам Брэста цікава даведацца, што менавіта ён першы выказаў меркаванне аб знаходжанні старажытнага Бярэсця там, дзе зараз дзейнічае наш археалагічны музей. Наведвальнікі выставы могуць убачыць яго кнігі, дакументы, пісьмовыя прылады, лупу, з якой Міхаіл Іванавіч увесь час працаваў... Гэтыя прадметы мы паказваем упершыню. Мяркую, выставу «Раскроем бережно страницы», якая будзе працаваць да 14 мая з цікавасцю наведаюць школьнікі, студэнты, аматары старадаўнасці.

*Алена САКАЛОЎСКАЯ,*
*фота Аляксандра ШУЛЬГАЧА*
*http://www.zarya.by*



# Струны жизни художницы Татьяны Савич

**В музее-усадьбе Немцевичей состоялся вернисаж художницы Татьяны Савич. Здесь представлено более 40 работ. Часть полотен выполнена в технике акварели, есть масляные и гуашевые картины, а также карандашные наброски.**




Татьяна уже не раз выставлялась за границей. С ее творчеством знакомы жители России, Чехии и Польши. Однако в родных Скоках картины художницы смогли увидеть впервые.

Название выставки — «Струны жизни» — раскрывает центральная композиция. Тканевые рыбы стайкой плывут в одну сторону. И лишь одна, золотая, двигается в совершенно ином направлении.



— Каждый человек рождается, и начинается его симфония. Он встречается с людьми, растет, учится, чем-то интересуется... И вот эти рыбы символизируют дела, которыми мы увлекаемся, — поясняет Татьяна Савич. — Вроде нам кажется, что мы нашли дело всей жизни, то, для чего мы родились. Потом появляется фальшь в нотах — оказывается, ошиблись. Мы бросаемся на следующую рыбку. Словили. Опять не та. И мы ловим, ловим, пока не приходит осознание того, кто мы есть. Вот тогда появляется золотая рыбка. Она приносит счастье от занятия любимым делом. Даже исполняет желания.

Украшением выставки можно назвать пейзажи. Их художница создала во время пленэров. Гости выставки узнавали различные уголки Брестского и Каменецкого районов. Интерес добавляли и оригинальные названия картин. Например, картина с огромным деревом называется вовсе не «Дерево», а «Птицы». И вправду, среди веток виднеются маленькие птички!

— Я помню, какие чудесные трели раздавались, пока я рисовала, — вспоминает Татьяна Савич.

Картина с изображением уютного дома неожиданно называется «Кот». Кот тоже небольшой — шагает себе по забору. А пейзаж с деревенским двориком именуется... «Пчелы». Крохотные пчел-

ки-точечки роятся в разных уголках полотна.

Отличаются от всех работ зарисовки, сделанные художницей в Париже. Они рассказывают целые истории. Вот парень с девушкой разошлись в разные стороны. Но главные герои — не они. Это — история чемодана, который везла девушка, и зонтика, который нес молодой человек. Именно они встретились на миг... и сразу же расстались. А вот две пары одного возраста — но одна почему-то счастлива и обнимается, а другая откровенно скучает и пьет пиво.

Свое мастерство Татьяна Савич стремится передавать и детям. Она является руководителем художественной студии «Волшебный мир». Занятия проходят как в Скоках, так и в Бресте. На уроки приходят дети, как с улыбкой отмечает мастер кисти, от четырех и до ста лет.

— Моя задача — посредством искусства научить людей выражать эмоции, бороться со стрессом, — говорит Татьяна Савич. — Современные люди не умеют быть эмоционально открытыми, редко кто не боится самовыражаться. К нам приходят и дети с ограниченными возможностями. Группы маленькие, по три-четыре человека.

Работы участников студии «Волшебный мир» не раз отмечались наградами международного уровня. А художница признается: для нее самая большая награда — слова учеников о том, что на занятиях они отдыхают душой.

— На сегодняшний день я свою золотую рыбку нашла, — делится радостью Татьяна. — Я счастлива от того, что делаю, и вижу потрясающий результат. Это меня окрыляет.

*Алена ДЕБИШ,*
*фото Александра ШУЛЬГАЧА*
*http://www.zarya.by*









# Выставка утюгов в Бресте

**В канун замечательного весеннего праздника в областной научно-технической библиотеке завершилась «Выставка утюгов». Она была настолько содержательной, что будила дизайнерское воображение и влекла лирические размышления о том, как из века в век шли наши женщины, с утюгом в руке.**

Глядя на многие десятки утюгов из коллекции Олега Зубаря, задумался, а как выглядел первый, который доверили женским рукам? Скорее всего, это было в те незапамятные времена, когда появились ткани из натуральных нитей — льняных и шерстяных. Наверное, это был разогретый плоский камень. А потом, с появлением дорогих шелковых тканей, появилась потребность тщательно их разгладить, да не пережечь. То есть утюг появился не только вместе с тканями, но и со спросом на красоту.

Некоторые миниатюрные экспонаты из коллекции просто удивляли: да что ими гладить? Нашелся даже утюжок в форме толстого карандаша. «Ими гладили кружева, жабо, мельчайшие детали украшений из ткани», — пояснила заведующая библиотекой Ольга Лызо.

Понятно, это для весьма состоятельных людей, не для простолюдинов. А кто ими пользовался?

Изящный утюжок из XVIII века, в который клали раскаленную металлическую таблетку, возможно, был в руках у горничной. Пользовались утюгами и местные модницы. Не обходились без массивных чугунных утюгов, разогреваемых горячими углями, в домах местного сельского дворянства, в хатах зажиточных жителей сел и местечек Полесья, в мастерских и лавках местячкового еврейства. Ведь, как известно, крестьяне предпочитали гладить льняное белье, полотна и рушники старинным способом — с помощью деревянной «качалки» и «валика»...





Вскользь заметим, что выставка была явно полезна для тех, кто профессионально занимается промышленным дизайном. На выставке были также представлены старинные весы и самовары из коллекций Сергея Гриня, из фонда «Фортификации Бреста», валики и рубели для стирки белья — из коллекции музея «Брест театральный».

*Валерий ЦАПКОВ,*
*фото Юрия МАКАРЧУКА*

## Ціна ХУТАРАНКА

# Балоты ў наваколлі вёскі Чэрні

### Сцербіна (Стэрбіно)

Балота «Сцербіна» знаходзілася ў паўночнай частцы наваколля Чэрняў. Яно ляжала за існуючым яшчэ хваёвым Барком. «Сцербіна» было пакрыта дрыгвой, таму лічылася непраходным. Сярод старажылаў існавала быліна аб цыгану, які ўкраў у Чэрнях каня і, ўцякаючы ад пагоні, рушыў праз гэтае балота. Але так і не дайшоў да другога берага... Праваліўся ў твань, і пайшоў на дно разам з канём...

Недалёка ад берага «Сцербіна», побач з сасновым Барком былі захаваны напалеонаўскія грэнадзёры, якія загінулі на нашай зямлі пад час французскага нашэсця.

Жыхары Чэрняў на тым месцы ніколі не аралі зямлю. Да гэтай пары тое месца лічылася асобым і мела сваю недатыкальнасць. На брацкай магіле французаў і зараз расце вялікі корч ляснога арэшніку, які да нашай пары ніхто ніколі не высякаў.

Гэтае паданне расказаў аднойчы Куркевіч Яўген, які з’яўляўся ўнукам Турэвіча, святара Чэрнінскай царквы, што служыў у ёй яшчэ пры польскім часе.

### Ростава (Роставо)

Гэта было невялічкае балотца ля Машчонскага хваёвага лесу. Там чэрнінскія пастухі заўжды паілі статак кароў.

У 80-я гады мінулага стагоддзя, у час забудовы ў сяле сучаснага мікрараёна, на месцы Ростава, было выкапана штучнае возера. Спачатку на беразе гэтага цудоўнага вадаёма была створана зона адпачынку. Улетку, у чыстай вадзе азярца купаліся дарослыя і дзеці. Але зараз яно стала мялець і зарастаць чаратом. Калі ж яго не чысціць, то праз гады яно зноўку стане балотам...

### Карапудаўка

Маленькае, але глыбокае і старадаўняе балотца з незразумелай назвай, знаходзілася паміж нашымі Чэрнямі і вёскай Плоска. Яно ляжала справа ад напрамку на Брэст. Карапудаўка запомнілася тым, што нашы вяскоўцы капалі там уручную торф. Нарэзаныя жалезнікамі тарфяныя плахты выносілі з балотца і выкладвалі на беразе сушыць. Калі торф высыхаў, тады на колах адвозілі яго дадому. Цэлую зіму гэтымі брыкетамі тапілі печы.

Доўгі час існавалі глыбачэзныя ямкі на месцы выкапанага торфу. Спачатку яны самі па сабе запаўняліся вадою і пужалі сваёй глыбачэзнаю чарнатой. Смельчакі туды запускалі рыбу, а потым вудамі лавілі яе.

Пасля таго, як была праведзена меліярацыя, ямкі паступова высахлі, а стромыя берагі паабвальваліся. З цягам часу ў іх пачаў расці малады гушчак альхоўніка. Зараз ад гэтага балотца не засталося і знаку. Яно зарасло вольхамі і бярозамі так, што зніклі і зараўняліся ўсе ягоныя ямкі.

Але ў час сваіх вандровак у грыбы, я ўсё ж такі адважвалася часам зазірнуць у той гушчак, і агледзеўшыся там навокал, адзначала сабе, што зніклі ўсе сляды тарфянога балотца, якое я добра памятала з дзяцінства.

Як і не было Карапудаўкі на свеце — усклікала я там ўслых.

## Пяруціна (Пырутына)

Далей за «Карапудаўкай», ля напрамку на Берасце, не даходзячы да вёскі з назвай Плоска, ляжала вялікае балота «Пяруціна».

Калісьці, у сівой даўнізне, па загаду Чэрнінскіх паноў, у балоце сяляне гацілі сцежу з аднаго яго берага на другі бярвеннем, упераважку з камянямі. Калі штучны насціл стаў годным для пераходу, ці пераезду, то тады тут быў пракладзены самы кароткі шлях з Чэрняў на горад. Бо да гэтага людзі і паны ездзілі ў Берасце акольнай дарогай, якая ішла праз Задворцы.

Яшчэ пры Штэру, а мо і раней усе дарогі былі абсаджаны вербамі. У тунелю вербаў патануў і гэты напрамак.

(Тыя вербы раслі да 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Карацей кажучы, да таго часу, як сталі рэканструяваць дарогу).

Ужо пры недалёкім польскім часе на дарозе быў насыпаны высокі насып са жвіру, які капаўся народам у Чэрнінскім кар'еры.

Цягнуўся дарожны насып ад самага горада і да горкі, што ўзвышалася ў «Багунцях» перад Чэрнямі. (Там зараз над дарогаю растуць дзве бярозы).

Сюды на будоўлю добротнай грэблі сялянамі звозілася каменне, якое збіралася па палетках блізкіх сёлаў.

Увесь насып ад самага горада быў вымашчаны гэтым каменнем. Праца была ручная. Падвоз жвіру і камення праводзіўся коньмі. Кожны гаспадар павінен быў адпрацаваць на гэтай будоўлі якісьці тэрмін часу. Гэтую абавязалаўку ў народзе тады называлі «шарваркам», а пракладзеную з камянёў дарогу сталі называць «брукам ці брукоўкай».


Качар у вадзе Пяруціны. 2015

Але вернемся да аповеда пра «Пяруціну».

Старыя людзі пагаворвалі, што ў тваністай і непраходнай «Пяруціне» вадзіліся чэрці. Пасля заходу сонца, нячысцікі вылазілі з балота бліжэй да дарогі і пужалі людзей, якія позна варочаліся з горада ў сяло. Напускалі «туман» на гэтых прахожых, імкнучыся зацягнуць іх у твань.

Такія страхі заўжды расказваліся вечарамі на папрадках (попряды) у якой-небудзь хаце, куды зыходзіліся вясковыя дзяўчаты прасці кудзелю. Абавязкова туды да дзяўчат прыходзілі хлопцы. Часам да моладзі заглядвалі і старэйшыя мужыкі і бабы, каб з маладымі пагутарыць аб палітыцы,


Левая частка Пяруціны. 2016

